**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.27, 17.26, 10.59;
Віцебск — 6.20, 17.12, 10.52;
Магілёў — 6.16, 17.16, 11.00;
Гомель — 6.13, 17.12, 10.59;
Гродна — 6.44, 17.39, 10.55;
Брэст — 6.41, 17.44, 11.03.

**МЕСЯЦ:**

Першая квадра 3 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ:**

Савацея, Калістрата, Марка, Арыстарха, Ігната.





# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

10 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
субота, №№ 203—204
(21981—21982)






● цана 2 рублі


# РОЗГАЛАС

## БЕНЗІНАВАЯ ПЛАНКА ЦЭН ПАДСКОЧЫЛА Ў ЧАРГОВЫ РАЗ

Кіламетровыя аўтамабільныя хвасты на подступах да аўтазаправачных станцый ужо звыкла ўпісаліся ў пейзаж любога горада. Бензінавыя «магнаты» Мазырскі і Наваполацкі нафтаперапрацоўчыя заводы б'юць трывогу з прычыны скарачэння паставак нафты з Расіі адразу на 40 працэнтаў. Так што пытанне аб хуткім насычэнні беларускага рынку нафтапрадуктамі пакуль што нават і не ставіцца.

Так, існаваўшы да сённяшняга моманту кошт бензіна ў 6—7 рублёў, на фоне цэн у іншых рэгіёнах СНД, не пакідаў ніякіх ілюзій на будучае.

І вось — новыя цэны. З гэтага часу (дакладней — з учарашняга дня) кошт аднаго літра бензіну АІ-76 склаў 15 рублёў, АІ-93 — 17 рублёў 50 капеек. Ігнаруючы ўсялякія законы разумнага сэнсу, падскочыў на недасягальную вышыню яго камерцыйны курс — 70 рублёў за літр (прынамсі, такую інфармацыю мы атрымалі на аўтазапраўцы «Зялёны Луг»). Нам жа ў сваю чаргу прыходзіцца толькі здзіўляцца — у тым сэнсе, што літаральна ўчора выступіўшы на старонках «Звязды» начальнік упраўлення рэсурсаў, балансаў, аптовага гандлю і паставак нафтапрадуктаў М. Рамашка ні словам не абмовіўся наконт маючага адбыцца падаражання. Напэўна, зноў-такі быў не ў курсе, у што, дарэчы, верыцца з цяжкасцю. У выніку — чарговы «варфаламееўскі» натоўп як на пад'ездах да аўтазаправак, так і на іх тэрыторыі. Напрыклад, учора на тым жа «Зялёным Лузе» да 12 гадзін дня не было выдадзена ніводнай кроплі бензіну — па-першае, не ведалі новых цэн, а па-другое, як заўсёды — чакалі рэвізораў, якія, мяркуючы па ўсім, не вельмі і спяшаліся. Няцяжка сабе ўявіць, што ў гэты час рабілася ў радыусе кіламетра вакол «аб'екта».

На запраўцы па вуліцы Маскоўскай сітуацыя ў гэтым сэнсе была больш аптымістычней. Як ні дзіўна, але сюды інфармацыя пра падаражанне прыйшла ўжо зранку і толькі лімітаванне ў 20 літраў азмрочвалі настрой нават больш, чым падаражанне. Праўда, хутка прыватнікаў пачалі запраўляць толькі па нейкіх загадкавых спісах. Я паспрабаваў высветліць іх прыроду, але канчаткова заблытаўся. Адзінае, што зразумеў, дык гэта тое, што, каб трапіць у спіс, арганізацыя — і толькі яна — павінна рабіць штомесячны ўзнос каля 5 тысяч рублёў, пры гэтым купляючы яшчэ і звычайныя талоны. Так сказаць, плата ўсяго толькі за гарантыю заўсёды быць з палавінай бака.

І на фоне гэтай неразбярыхі — абсалютны спакой і мінімум таўкатні вакол валютных бензакалонак. Сціплая цана ў 80 цэнтаў за літр пакуль што не збірае кіламетровых чэргаў.

**Ігар КАРНЕЙ.**

## ІЛЬГОТЫ ЗА ТАЛЕНАВІТАСЦЬ

**Дзесяць працэнтаў мінімальнай зарплаты—такой цяпер у Маладзечна будзе плата за навучанне ў дзіцячых школах мастацтва.**

**А вось тыя бацькі, чые дзеці выберуць цымбалы, духавыя і ўдарныя інструменты, плаціць будуць на 25 працэнтаў менш. Бясплатным будзе навучанне ў школах выхаванцаў дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў і сірот, якія знаходзяцца пад апекай. У асобных выпадках рашэннем мясцовых улад часткова ці поўнасцю будуць вызваляцца ад аплаты асабліва таленавітыя навучэнцы, а таксама дзеці з малазабяспечаных сем'яў — не больш, чым на навучальны год.**

**Вольга КАЖАМЯКІНА, (РІД).**

## УСЁ ГАРАЧЭЙ...

**Мінскі гарвыканком дазволіў упраcredit БНФ і дэмакратычным партыям краіны правесці напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета — 18 кастрычніка ў 14 гадзін на плошчы Назалежнасці мітынг-сустрэчу з дэпутатамі апазіцыі на тэму: «Рэферэндум — мірнае выйсце з крызісу».**

**Зміцер ЖДАНЮК.**

## ШТО ЎПАЛА З КАЛЁС

**Начальнік кабінета прафілактыкі медвыцвярэзніка пры Чэрвеньскім РАУС у пары з інспектарам ДПС выехаў ноччу ў рэйд на зладзеяў і грабежнікаў і... згубіў пісталет. Адбылося гэта па прычыне ўжывання спіртнога.**

**Сяргей ПАЎЛАЎ. (РІД).**

## МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ: ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСКАСЦІ

**Кожную пятніцу збіраюцца афіцэры апарату ваеннага ведамства на заняткі па вывучэнню беларускай мовы. Для гэтага абсталяваны лінгафонны кабінет, набыты падручнікі, слоўнікі, розныя дапаможнікі.**

Адпаведная вучоба разгортваецца і ў воінскіх часцях. У новым годзе ў роту, батарэю, бібліятэкі будуць паступаць беларускамоўныя перыядычныя выданні з цэнтралізаванай падпіскі. З улікам праграмы, прынятай калегіяй міністэрства 20 чэрвеня бягучага года, пераарыентавана работа культурных устаноў воінскіх гарнізонаў. Асноўным напрамкам дзейнасці стала прапаганда традыцый беларускага народа, развіццё нацыянальнай культуры.

Шлях да беларускасці ў арміі нялёгкі. Гэта звязана з дадатковым фінансаваннем. Хто выдаткуе грошы на закупку рознай аргтэхнікі, на правядзенне шэрагу мерапрыемстваў па выкананню намечанай праграмы? Многае маглі б зрабіць творчыя саюзы рэспублікі, але ініцыятывы яны пакуль не праяўляюць. Што цалкам зразумела: сёння творчая інтэлігенцыя апынулася ў жабрацкім становішчы і бясплатна працаваць проста не мае права.

**Уладзімір РУДЭНКА,**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### АБ ПАРАДКУ ПЕРАРАЗЛІКУ ПЕНСІЙ І КАРЭКЦІРОЎКІ ЗАРАБОТКУ, ЯКІ ВЫЗНАЧАЕЦЦА ПРЫ НАЗНАЧЭННІ ПЕНСІЙ

У мэтах выканання пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 г. «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыкладзенае палажэнне аб парадку пераразліку пенсій і карэкціроўкі заработку, які вызначаецца пры назначэнні пенсій.

2. Устанавіць, што пенсіі па інваліднасці ваеннаслужачым тэрміновай службы і пенсіі з выпадку страты карміцеля членам іх сем'яў вылічваюцца з прымяненнем зацверджанага гэтай пастановай палажэння.

3. Дзяржкамстату прадставіць Міністэрству сацыяльнага забеспячэння:

Не пазней 20 лістапада 1992 г. паказчыкі сярэднямесячнай заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы за перыяд з 1950 па 1990 год — па гадах, а за перыяд з 1 студзеня 1991 г. па 1 кастрычніка 1992 г.— памесячна і паквартальна.

Не пазней 22 студзеня 1993 г. паказчыкі сярэднямесячнай заработнай платы рабочых і служачых за IV квартал 1992 г.

4. Устанавіць, што пераразлік пенсій, назначаных да 1 студзеня 1950 г. робіцца з заработку, з якога вылічана пенсія, павялічанага на індэкс росту сярэднямесячнай заработнай платы ў рэспубліцы за перыяд, што мінуў з 1950 года.

5. Дзяржкамстату сумесна з Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння да 1 снежня 1992 г. апублікаваць у рэспубліканскім друку індэксы росту сярэднямесячнай заработнай платы рабочых і служачых з 1950 па 1990 год уключна ў адносінах да сярэднямесячнай заработнай платы рабочых і служачых за III квартал 1992 г.

6. Дзяржкамстату пачынаючы са студзеня 1993 г. штомесячна не пазней 22 чысла публікаваць у рэспубліканскім друку звесткі аб сярэдняй заработнай плаце рабочых і служачых за папярэдні месяц.

7. Міністэрству сацыяльнага забеспячэння да 20 кастрычніка 1992 г. зацвердзіць форму даведкі аб заработку для назначэння пенсіі.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**

7 кастрычніка 1992 г.
г. Мінск.

*(Палажэнне аб парадку пераразліку пенсій і каментарый да яго будуць надрукаваны ў наступным нумары).*

---

● Закончыўся чарговы тыдзень — як заўсёды апошнім часам, даволі напружаны, мітуслівы і тлумны, у якім не надта многа часу на ўдумлівы аналіз таго, што адбываецца. Таму мы і вырашылі прапанаваць нашым чытачам у дні адпачынку больш інфармацыі, фактаў для асэнсавання, а таксама і проста цікавага чытання ў вольную хвіліну. Пастараемся, каб нашы суботнія нумары сталі жаданымі і карыснымі для кожнай сям'і.

**У СЁННЯШНІМ НУМАРЫ ВЫ ЗНОЙДЗЕЦЕ:** ●

**Саветнік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Іван Сцяпура:**

«...Беларусі трэба выжыць, выстаяць у такіх надзвычай цяжкіх абставінах, замацаваць сваю незалежнасць. А дзеля гэтага трэба навучыцца эфектыўна кіраваць дзяржавай».

*(Інтэрв'ю чытайце на 2-й старонцы).*

Што патрэбна чалавеку для нармальнага жыцця ў першую чаргу? Каханне, грошы, праца? Мабыць, у кожнага павінна быць Радзіма. Няхай бедная і занядбаная, непрыветная і малая. Але Радзіма. Ці сустракаліся вам людзі без Радзімы? Не ведаеце, што адказаць?

Наша рэспубліка таксама яшчэ не ведае, што сказаць людзям, якія хочуць убачыць у ёй другую Радзіму, якія па палітычных і рэлігійных матывах не могуць пакуль што вярнуцца дамоў.

*(Аб праблеме палітычных эмігрантаў на Беларусі, чытайце на другой старонцы).*

**СЁННЯ У «БЕЛАРУШЧЫНЕ»**

**● Пра Магільна — «Брэсцкую крэпасць» на нашым тапанімічным фронце.**

**● Ці ўсе Ленінскія праспекты стануць праспектамі Скарыны!**

**● Іванава ці Янава! Слаўгарад ці Прапойск! — пра гэта і іншае ідзе гаворка ў інтэрв'ю Леаніда Лыча.**

*(Беларушчыну вы знойдзеце на 3-й старонцы).*

Ва ўсе часы сярэднестатыстычны абывацель быў неабыякавы да лёсу «герояў свайго часу». Але аналы свецкай хронікі з трэскам рушацца пасля непазбежнага закату чарговай «зоркі» альбо выхаду былога куміра на заслужаны адпачынак. Так і ў нашым выпадку. У свой час проста нельга было ўявіць футбольны клуб «Дынама» (Мінск) без таленавітага ігрока Людаса Румбуціса. Чым ён займаўся пасля свайго раптоўнага знікнення з поля? Мы ўзяліся выправіць гэты інфармацыйны вакуум артыкулам «Чалавека ацэньваюць не па нацыянальнасці, а па ўчынках».

*(3 старонка).*

**ТРЭЦІ (ПАСЛЯ «ТАРАСА НА ПАРНАСЕ» І «СКАЗА ПРА ЛЫСУЮ ГАРУ») ТВОР — САТЫРЫЧНАЯ ПАЭМА ПРА СУЧАСНАСЦЬ «АЧМУРЭННЕ».**

*(Першую публікацыю паэмы чытайце на 4-й і 5-й старонках).*

## НАТО-біс ці Варшаўскі Дагавор-2?

**Польская ваенная дактрына зарыентавана на Захад. Канчатковая ж мэта гэтай палітыкі — уступленне ў НАТО. Аб гэтым заявіў у Варшаве міністр абароны Польшчы.**

Не сакрэт, што наша заходняя суседка — моцная ў ваенных адносінах дзяржава — з мабільнымі сухапутнымі сіламі, моцным ваенна - марскім флотам, авіяцыяй. Але гэтага, аказваецца, яшчэ недастаткова, каб быць прынятай у рады Паўночнаатлантычнага саюза. Патрэбны час і дакладна вызначаная ваенная дактрына.

Першым крокам у гэтым напрамку стала прапанова аб стварэнні абарончага саюза НАТО-біс. У яго, на думку польскай вайсковай вярхушкі (ці толькі?), акрамя іх краіны, змогуць увайсці дзяржавы Балтыі, Беларусь, Украіна, Чэхія і Славакія, некалькі рэспублік Югаславіі. З Расіяй мяркуецца падпісанне асобнага ваеннага пагаднення.

Ніякіх афіцыяльных водгукаў на гэтую заяву яшчэ не паступала. Маўчыць пакуль што і Міністэрства абароны Беларусі. Трэба думаць, яшчэ не забыта Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі, адным з галоўных пунктаў якой з'яўляецца абвяшчэнне Беларусі нейтральнай дзяржавай — па-за ўсялякімі ваеннымі саюзамі.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ФОТАРОЗДУМ






**Гэта быў нечы недарэчны жарт. Аб'ява прапаноўвала абмен, але каб сапраўды ўсё было так, ці знойдзецца нехта, хто пажадаў бы памяняцца месцам з гэтым жабраком?**

**Напэўна, ён зайздросціць адлятаючым у вырай птушкам. Праз колькі дзён яны будуць у далёкіх краях, пад цёплым небам. Пра тое цёплае неба так часта думаеш на халодных каменных прыступках...**

**Але чаму гэтыя вольныя птушкі вясной вяртаюцца дадому? Што кліча іх на прамерзлую, збяднелую зямлю?**

**Вядома, гэта быў чыйсьці недарэчны жарт. Радзіму не памяняеш, бо ніякі дзяржаўны ўказ, ніякі чалавечы прымус ці спакуса не адбяруць у нас тое, што дадзена Богам. Аднойчы і назаўсёды.**

**Уцякаюць птушкі ад маразоў, бягуць ад галечы людзі. Але Бацькаўшчыну на крылах не знясеш.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

«ЗВЯЗДА»-93

## ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ: ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР ПРАДКАЗВАЕ НЕПАГАДЗЬ

Наступны год, магчыма, стане самым вялікім выпрабаваннем для маладой беларускай дзяржаўнасці. Вір эканамічнага крызісу, які ўсё глыбей зацягвае Беларусь услед за партнёрамі па СНД, з якімі мы звязаны, як альпіністы, — ратавальнымі і адначасова пагібельнымі канатамі, — гэты вір, напэўна, апусціць планку жыццёвага ўзроўню да крытычнай рысы. У гэтых умовах палітычныя партыі і рухі, колькасць якіх пастаянна расце і будзе павялічвацца,— адчуваючы хісткасць сітуацыі і рэальнасць хуткіх змен на палітычным Алімпе, — з новай сілай пачнуць баталіі за ўладу. Хутчэй за ўсё, у будучым годзе нас чакаюць датэрміновыя парламенцкія выбары, новая мітынговая хваля крайніх сіл і, — вельмі хацелася б памыліцца ў прагнозе, — актывізацыя рабочага руху.

Няпэўнасць палітычнага і эканамічнага становішча большасці блізкіх суседзяў не самым лепшым чынам адаб'ецца на нашых адносінах з імі. Знешняя палітыка Беларусі ў будучым годзе вымушана будзе карэкціраваць ранейшыя арыенціры, і — не выключана — пераглядаць прыярытэты.

Бадай, не будзе перабольшаннем сказаць, што ў выніку ўсіх палітычных пераўтварэнняў Беларусь у наступным годзе будзе кардынальна адрозніваецца ад Беларусі сённяшняй і ўчарашняй. Новы парламент, які мы выберам па новым законе, наўрад ці захоча захаваць пераемнасць курсу свайго, мякка кажучы, не надта дэмакратычна выбранага аморфнага папярэдніка (незалежна ад таго, хто пераможа на новых выбарах). Новы ўрад у крызіснай эканамічнай сітуацыі будзе прадпрымаць новыя канвульсіўныя, часта неэфектыўныя спробы стабілізаваць становішча. На гарызонце замаячыць фігура магчымага першага ў гісторыі Беларусі прэзідэнта — на моцную ўладу якога будуць разлічваць многія з тых, хто стаміўся ад бязладдзя і безуладдзя.

Не сумняваюся: вы стоміцеся выграбаць са сваіх паштовых скрынак передвыбарныя лістоўкі красамоўных кандыдатаў на ўтульныя парламенцкія крэслы; вас будзе раздражняць выгляд заляпаных партрэтамі прэтэндэнтаў на месца збавіцеля нацыі сцен і агародж; вы з раўнадушным выглядам будзеце праходзіць міма трыбун на плошчах, над аднымі з якіх лунаюць чырвоныя флагі і партрэты Леніна, над другімі — чорна-жоўта-белыя харугвы і лік апошняга імперскага самадзержца; вы тут жа будзеце пераключаць канал тэлевізара, калі ўбачыце на экране абрыдлы выгляд парламента.

І тым не менш, калі вы яшчэ не страцілі канчаткова надзеі на тое, што будучыня Бацькаўшчыны хоць у самай нязначнай ступені, — але залежыць ад кожнага з нас,— было б лепш, каб вы маглі адрозніваць шчырасць ад дэмагогіі, самададнасць ад двурушнасці, праўду ад хлусні.

Мы не збіраемся перапаўняць свае старонкі справаздачамі з сесій, з'ездаў, канферэнцый, не будзем навязліва прапаноўваць вам груваcткія палітычныя платформы і дэкларацыі. Мы хочам, каб вы мелі магчымасць аператыўна і дакладна арыентавацца сярод нашай шматколернай стракатай палітычнай мазаікі, якая, як у калейдаскопе, здольная вокамгненна мяняцца.

Мы будзем сцісла, аператыўна, даходліва расказваць вам, хто ёсць хто ў беларускай палітыцы, каменціраваць найбольш значныя і цікавыя падзеі, а часам і прагназіраваць іх. Мы будзем з вамі ў гэты мітуслівы, зменлівы, няпэўны час палітычных узрушэнняў.

**Валянцін ЖДАНКО,**
**рэдактар аддзела палітыкі.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**«ЗВЯЗДА»** Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63850** (індэкс выдання)

**«ЗВЯЗДА»**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЎСЯ 21 ДЗЕНЬ.**
**ПАДПІСНАЯ ЦАНА «ЗВЯЗДЫ» НА ПАЎГОДА —120 РУБЛЁЎ.**

РОДНЫ СКЛОН

# Гуд бай, Беларусь!

**Мяне цікавіць, колькі чалавек выехала за межы Беларусі на пастаяннае жыхарства?**

**І. КІКІН.**

**г. Бабруйск.**

Свежых даных нашаму чытачу прапанаваць пакуль што не можам, а вось у мінулым годзе развіталіся з Беларуссю 34 тысячы 100 чалавек. Сярод рэспублік былога СССР рэкорд па гэтаму паказчыку належыць Расіі — 103 тысячы 110 чалавек. Менш за ўсіх шукалі шчасця на чужбіне туркмены — усяго 302 чалавекі.

# Лічбы з доляй аптымізму

**Можа некаму мае пытанне здасца дзіўным, але я хацеў бы ведаць прапісныя ісціны, у прыватнасці, дакладнае геаграфічнае становішча і нацыянальны састаў нашай Беларусі.**

**І. ЛУБАЧКА.**

**г. Глыбокае.**

Пытанне нашага чытача слушнае, і таму з дапамогай Дзяржкамстата РБ мы пастараемся коратка, але канкрэтна на яго адказаць.

Агульная тэрыторыя Рэспублікі Беларусь складае 207,6 тысячы квадратных кіламетраў. Ці шмат гэта? Мяркуйце самі! На такой плошчы маглі б размясціцца Венгрыя, Данія, Ірландыя і Албанія разам узятыя. На тэрыторыі адной толькі Гомельскай вобласці змясцілася б Швейцарыя. Сярод еўрапейскіх краін наша рэспубліка па плошчы займае прамежкавае становішча паміж Грэцыяй (132 тысячы кв. км) і Румыніяй (238 тысяч кв. км).

Паводле даных на пачатак 1992 года, колькасць насельніцтва Беларусі дасягнула рэкорднай лічбы за ўсю гісторыю — 10 мільёнаў 952 тысячы ў сельскай мясцовасці. У сталіцы — горадзе Мінску — колькасць жыхароў вырасла да 1 мільёна 645 тысяч. Агульная шчыльнасць на квадратны кіламетр складае без малога 50 чалавек.

Нацыянальны састаў насельніцтва выглядае наступным чынам: беларусы — 7 мільёнаў 905 тысяч (77,9 працэнта); рускія — 1 мільён 342 тысячы (13,2 працэнта); палякі — каля 420 тысяч (4,1 працэнта); украінцы — 291 тысяча (2,9 працэнта); яўрэі — 112 тысяч (1,1 працэнта); іншыя нацыянальнасці—84 тысячы (0,8 працэнта).

ПЫТАЛЬНІК

КАЛІ ПАРАЎНАЦЬ БЕЛАРУСЬ І ШВЕЙЦАРЫЮ...

●

«ТАЧКА» НЕ РАСКОША, А СРОДАК ПЕРАМЯШЧЭННЯ

●

АД ПАЎДНЁВАЙ КАРЭІ ДА АФГАНІСТАНА

●

ХТО ШУКАЕ ШЧАСЦЯ НА ЧУЖБІНЕ!

ПІШЫЦЕ У «ПЫТАЛЬНІК» ПА АДРАСУ: 220041, МІНСК, ПР. Ф. СКАРЫНЫ, 77, РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА».

ВАША АЎТО

# Для вас, уладальнікі аўтамабіляў

**Чуў, што распрацаваны пералік простых, але неабходных правіл, каб захаваць уласны аўтамабіль ад крадзяжу. Зараз, калі вельмі пачасціліся ўгоны машын, ці не магла б рэдакцыя ўзяць на сябе азнаямленне грамадзян з гэтымі правіламі?**

**Я. МАХАВЕЦКІ.**

**г. Мінск.**

**Сапраўды, органы ўнутраных спраў рэспублікі прапанавалі аўтаўладальнікам шэраг парад, як захаваць іх транспартныя сродкі — аўтамашыны. Прапануем некаторыя з іх.**

✦ **Ніколі не пакідайце машыну з адкрытымі дзверцамі** і ключом у замку запальвання, нават калі вы адыходзіце ад яе ўсяго на некалькі секунд, напрыклад, да кіёска за цыгарэтамі.

✦ **Перад тым, як закрыць дзверцы машыны,** не забывайце падняць шкло да ўпору. Пазбягайце паркаваць аўтамашыну на доўгі час у бязлюдных і неасветленых месцах.

✦ **Абсталюйце машыну ахоўнай сігналізацыяй,** сістэмай блакіроўкі педаляў, дзверцаў, руля і г. д.

✦ **Прамаркіруйце шкло, кузаў, іншыя вузлы,** каб аблегчыць іх пошук у выпадку крадзяжу. Нікому не давярайце ключы ад машыны, бо зрабіць з іх копію няцяжка.

✦ **Не карыстайцеся бірулькай,** на якой запісаны ваша імя і адрас, бо ў выпадку страты або крадзяжу ключоў яна значна аблегчыць злачынцу яго задачы.

✦ **Ніколі не пакідайце свае дакументы** ў пальчаткавым аддзяленні, трымайце іх пры сабе, бо ў выпадку крадзяжу іх могуць выкарыстоўваць у злачынных мэтах. Падыходзячы да аўтамашыны, заўсёды правярайце, ці ёсць намэрныя знакі, таму што іх вельмі часта крадуць для маскіроўкі іншых машын. Ніколі не пакідайце, нават на нядоўгі час, розныя каштоўныя рэчы ў салоне вашай машыны. Памятайце, што сумка, дыпламат, фотаапарат, іншыя рэчы могуць прыцягнуць увагу злодзея, а таму лепш трымайце іх у багажніку. А прыязджаючы дадому, вызваляйце багажнік ад рэчаў, якія не маюць адносін да машыны.

✦ **Не забудзьце застрахаваць вашу аўтамашыну.** Калі ваш аўтамабіль спынілі, не выключаючы запальвання і не адкрываючы дзверцаў, высветліце праз акно прычыну спынення і, калі адчуеце што-небудзь падазронае, адразу ад'язджайце, а з бліжэйшага тэлефона паведаміце ў аддзяленне міліцыі.

✦ **Не забывайце і пра бяспеку ўнутры вашай машыны:** нават у час руху заўсёды закрывайце дзверцы на замок. Пры пасадцы ў машыну правярайце, ці не хаваецца хто-небудзь на заднім сядзенні. Старайцеся не рабіць доўгія паездкі ў адзіночку, асабліва па незнаёмых месцах. Калі вы вырашылі адпачыць ці паспаць у машыне, зачыніце на замкі ўсе дзверцы.

✦ **Не падвозьце спадарожнікаў.** Трымайце машыну заўсёды ў спраўным стане і з поўным бакам. Па магчымасці выкарыстоўвайце дарогі з больш інтэнсіўным рухам і асвятленнем. Калі вы заўважылі, што вас нехта праследуе, не едзьце дамоў, а накіроўвайцеся ў бліжэйшае аддзяленне міліцыі або любое людное месца з добрым асвятленнем.

✦ **Калі ваша машына ўсё ж украдзена,** міліцыі спатрэбяцца даныя тэхпашпарта, а таксама ўсе асаблівыя прыкметы, якія набыла машына ў перыяд эксплуатацыі. Калі з вашай аўтамашыны будзе выкрадзены і тэхпашпарт, выпісаныя на асобны ліст яго даныя і асаблівасці аўтамабіля могуць аказаць добрую паслугу для хутчэйшай арганізацыі пошуку і знаходжання вашага аўтамабіля.

✦ **Вельмі важна паведаміць у міліцыю** аб угоне аўтамашыны як мага хутчэй. У гэтым выпадку шанцы затрымаць злачынцу і вярнуць машыну значна павышаюцца.

ГАРАДСКІ ПЕЙЗАЖ

# ДА АЭРАПОРТА «МІНСК-2» НА ТРАМВАІ?

**Даволі часта прыходзіцца бываць па справах у Мінску, і заўсёды здзіўляе, як няпроста дабрацца з аэрапорта «Мінск-2» да горада і наадварот. Ці збіраюцца гарадскія ўлады ўвесці дадатковыя магутнасці на гэтым маршруце? Са свайго боку, прапаную правесці да аэрапорта трамвайную лінію.**

**А. МАЛЧАНАЎ.**

**г. Масква.**

Трэба сказаць, што падобныя скаргі і пісьмы прыходзяць у рэдакцыю і ад многіх іншых чытачоў. Вось што нам удалося высветліць. Сёння да аэрапорта «Мінск-2» курсіруе з аўтавакзала «Цэнтральны» аўтобусны маршрут № 300, які ў прынцыпе забяспечвае патрэбы пасажыраў. Арганізаваць рух новых аўтобусных маршрутаў у аэрапорт з буйнейшых мікрараёнаў горада з-за адсутнасці дастатковага пасажырапатоку і рэзерву аўтобусаў зараз немагчыма.

Наконт трамвайнага маршруту. У вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома нам паведамілі, што для яго арганізацыі патрэбен значны пасажырапаток — прыкладна сем тысяч пасажыраў у гадзіну. Інакш стварэнне падобных транспартных сувязей будзе эканамічна неапраўдана з-за вялікіх матэрыяльных затрат. Так што ў бліжэйшы час, на жаль, ні будаўніцтва прыгарадных трамвайных ліній, ні новых аўтобусных маршрутаў да аэрапорта «Мінск-2» не плануецца.

КОЛЕР «ХАКІ»

# Абышлі ўвесь свет... з аўтаматам

**Якімі былі страты ў жывой сіле і тэхніцы ў час удзелу экс-СССР у ваенных дзеяннях за яго межамі ў пасляваенны час (маю на ўвазе пасля 1945 года).**

**А. РАМАНАЎ.**

**г. Брэст.**

На наша запытанне адпаведныя органы адказалі, што звесткі аб стратах у жывой сіле і тэхніцы ў пасляваенны час з'яўляюцца сёння закрытымі і публікацыі ў друку не падлягаюць. Але мы маем магчымасць надрукаваць пералік краін, у якіх падчас баявых дзеянняў знаходзіліся ў тым ліку і беларускія ваеннаслужачыя.

| Краіна | Перыяды вядзення баявых дзеянняў |
|---|---|
| Паўночная Карэя | чэрвень 1950 г. — ліпень 1953 г. |
| Алжыр | 1962—1964 гг. |
| Аб'яднаная Арабская Рэспубліка (Егіпет) | 18 кастрычніка 1962 г. — 1 красавіка 1974 г. |
| Йеменская Арабская Рэспубліка | 18 кастрычніка 1962 г. — 1 красавіка 1963 г. |
| В'етнам | 1 ліпеня 1965 г. — 31 снежня 1974 г. |
| Сірыя | 5 чэрвеня 1967 г. — 24 кастрычніка 1973 г. |
| Ангола | лістапад 1975 г. — лістапад 1979 г. |
| Мазамбік | лістапад 1975 г. — лістапад 1979 г. |
| Эфіопія | 9 снежня 1977 г. — 30 лістапада 1979 г. |
| Афганістан | 22 красавіка 1979 г. — 15 мая 1989 г. |

# Прапагандысцкая машына НАТО працуе без збояў

**Ці ёсць у арміях краін НАТО ідэалагічныя органы, аналагічныя палітаддзелам былой Савецкай Арміі?**

**У. ЦІШКІН.**

**в. Лясная, Баранавіцкага раёна.**

Такія органы ёсць не толькі ў нацыянальных арміях НАТО, але і ў структуры кіраўніцтва блока. У міжнародным штаб-сакратарыяце дзейнічае ўпраўленне па палітычных пытаннях, якое каардынуе работу ваеннага друку, арганізуе буйныя прапагандысцкія акцыі. Пры савеце НАТО ўтвораны пастаянныя камітэты, якія вырашаюць праблемы маральна-палітычнага стану асабовага саставу.

Штаб Вярхоўнага Галоўнакамандуючага НАТО ў Еўропе мае ўпраўленне грамадскай інфармацыі. Яно ўзгадняе планы блока з грамадскімі і ваеннымі нацыянальнымі прапагандысцкімі органамі, выпускае кнігі, буклеты, плакаты пра НАТО.

Нацыянальныя прапагандысцкія органы, як правіла, прадстаўлены некалькімі службамі: інфармацыі і сувязі з грамадскасцю, капеланаў (ваенных святароў), арганізацыі вольнага часу. Трэба сказаць, што прапагандысцкія службы не ведаюць недахопу ўвагі з боку ўрадаў і шчодра імі фінансуюцца. Так, штогадовыя расходы на ўтрыманне УС ЗША перавышаюць 170 млн. долараў.

Галоўнае звяно ў ідэалагічнай апрацоўцы ваеннаслужачых — сродкі інфармацыі. Хуткімі тэмпамі развіваецца радыётэлесетка УС ЗША, у якую ўваходзяць больш за 200 радыё- і 80 тэлевізійных станцый. Каля 60 станцый змантыраваны на баявых караблях.

Важнае месца ў арміях НАТО адведзена царкве. Ваенна-царкоўныя службы маюць разгалінаваны апарат і прадстаўлены капеланамі адпаведнага рангу і веравызнання ва ўсіх злучэннях і часцях. Яны выступаюць з лекцыямі на рэлігійныя і маральныя тэмы, пропаведзямі, праводзяць індывідуальныя гутаркі, прымаюць актыўны ўдзел у манеўрах, вучэннях.

Прапагандысцкі апарат арміі НАТО, безумоўна, удзельнічае і ва ўмацаванні воінскай дысцыпліны. У прыватнасці, ён шырока асвятляе злачынствы ваеннаслужачых і здарэнні ў часцях у сродках інфармацыі. Прафілактыкай негатыўных з'яў разам з камандзірамі займаюцца і капеланы.

ФОТАРОЗДУМ

# Спытай пра гэта ў дзіцяці

Старажытны мудрэц сказаў: калі вы адкажаце нават на адно простае пытанне дзіцяці, то самі ўбачыце дзесяць яшчэ больш складаных.

Ён меў рацыю. Праз простае мы дазнаёмся аб складаным, у імгненнях праступае вечнасць, у кожным тонкім праменьчыку святла часцінка бясконцай энергіі Сонца.

На світанні гэты тонкі праменьчык перш за ўсё кранае вершаліны дрэў, а яшчэ раней адзначае сваё з'яўленне на залачоным крыжы старой званіцы.





Нашы продкі ніколі і нічога не будавалі вышэй за гэтыя залачоныя макаўкі храмаў. Без камп'ютэраў і філасофскіх разлікаў яны беспамылкова вылічылі: вышэй за ўсё павінна быць не матэрыяльнае, а духоўнае.

Гучней за ўсё павінен быць не трактат мудраца, а голас дзіцяці.

А што найважнейшае за ўсё?

Шукайце адказ у пытаннях дзіцяці.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

ДАЛЁКАЕ ЗАМЕЖЖА

# «Абітура» па-амерыканску

**Ці праўда, што для паступлення ў ВНУ ЗША не патрэбна здаваць уступных экзаменаў? Як у такім выпадку вядзецца адбор абітурыентаў?**

**І. РЭУТАЎ, Гомель.**

**На гэта пытанне адказаў кандыдат тэхнічных навук К. ЦАЙКОВІЧ.**

— Вышэйшая адукацыя ў ЗША прадстаўлена ў асноўным трыма тыпамі навучальных устаноў — універсітэтамі, 4-гадовымі і 2-гадовымі каледжамі. Колькасць універсітэтаў параўнальна невялікая: усяго 4 працэнты ад агульнай колькасці ВНУ.

Аднак у гэтых буйных навуковых і навучальных цэнтрах сканцэнтравана каля 50 працэнтаў студэнтаў. 40 працэнтаў універсітэтаў — прыватныя. Найбольш прэстыжнымі з іх лічацца Стэнфардскі, Гарвардскі, Йельскі і Прынстанскі.

Найбольш распаўсюджаны тып ВНУ ў ЗША (57 працэнтаў ад агульнай колькасці) — 4-гадовыя каледжы. У іх навучаецца 14 працэнтаў студэнтаў. Тры чвэрці гэтых устаноў — прыватныя.

Двухгадовыя каледжы складаюць 39 працэнтаў ад агульнага ліку ВНУ ЗША. На іх долю прыпадае 37 працэнтаў студэнтаў. Такія каледжы бываюць двух відаў — пераходныя і тупіковыя. Першыя забяспечваюць падрыхтоўку на ўзроўні 1-га і 2-га курсаў вышэйшай школы і даюць магчымасць прадоўжыць навучанне ў 4-гадовых каледжах або ўніверсітэтах, другія маюць прафесіянальную арыентацыю і прызначаны для падрыхтоўкі спецыялістаў сярэдняга звяна для «мясцовых» патрэб.

Ва ўмовах вялікай разнастайнасці навучальных устаноў, што ўваходзяць у сістэму вышэйшай адукацыі, у ЗША не існуе адзіных патрабаванняў да прыёму навучэнцаў. У гэтым разрэзе існуе гістарычнае дзяленне ВНУ на 6 груп. У першую ўваходзяць 20 найбольш прэстыжных, у апошнюю — у асноўным 2-гадовыя каледжы. Ва ўстановы першай групы прымаюцца выпускнікі сярэдняй школы, што маюць высокія адзнакі і пасведчанне аб яе заканчэнні. У кожнай ніжэйшай групе ВНУ патрабаванні да абітурыентаў адпаведна ніжэйшыя ў параўнанні з больш «вышэйшай» групай. Прыём у 2-гадовыя каледжы — адкрыты, тут патрабуюць толькі пасведчанне аб заканчэнні школы.

Пры паступленні ў ВНУ неабходна падаць заяву, прадставіць меддаведку, уплаціць уступны ўзнос. Вялікая ўвага надаецца субяседванню, а таксама ўдзелу ў рабоце навукова-тэхнічных гурткоў, грамадскіх арганізацый, спартыўных клубаў і мастацкай самадзейнасці.

Уступных экзаменаў няма. Але загадзя абітурыенту часта ўсё ж прыходзіцца здаваць свайго роду экзамены — у форме тэстаў, арганізаваных спецыялізаванымі арганізацыямі, напрыклад, па месцы жыхарства. Вынікі тэставання накіроўваюцца ў адпаведныя ВНУ. Такая працэдура пачынаецца ўжо ў 11 класе сярэдняй амерыканскай школы.

Дакументы ад абітурыентаў прымаюцца з кастрычніка па сакавік. Адзіны дзень залічэння — 1 мая. Практыкуецца і так званае ранняе залічэнне, калі найбольш здольныя вучні становяцца студэнтамі яшчэ восенню, у пачатку апошняга, 12-га года навучання.

У цэлым жа прыём студэнтаў амаль за паўгода да пачатку заняткаў дазваляе той ці іншай навучальнай установе рэальна ацаніць будучы кантынгент навучэнцаў.

# Печ-забойца?

**Вырашылі з жонкай купіць мікрахвалевую печ. Але я чуў, што яна выпраменьвае электрамагнітную энергію і шкодная для здароўя? Парайце, калі ласка, купляць ці не?**

**Р. ЗАХАРАЎ.**

**г. Мінск.**

Заводы-вытворцы дастаткова строга кантралююць дапушчальныя ўзроўні ўцечкі энергіі з мікрахвалевых пячэй, так што пакуль печ новая, можаце жыць спакойна. Праўда, пры доўгатэрміновай эксплуатацыі могуць адбыцца парушэнні экраніроўкі, не так шчыльна будуць прылягаць дзверцы і г. д. Гэта ўжо небяспечна, таму што выпраменьванні мікрахвалевай печы аказваюць шкоднае ўздзеянне на нервовую, эндакрынную, сардэчна-сасудзістую сістэмы. Каб гэтага пазбегнуць, трэба перыядычна звяртацца да спецыялістаў або карыстацца спецыяльнымі індыкатарамі выпраменьвання.

# Лепш медзь, чым алюміній

**У апошні час для простага чалавека купіць добры посуд не па кішэні. Прыходзіцца карыстацца алюмініевым ці пластмасавым. Але, кажуць, алюмій, ды і пластмаса, шкодныя для здароўя. Гэта так?**

**В. РУДЗІН.**

**г. Гомель.**

Што зробіш, але да сусветных стандартаў мы яшчэ не дараслі. Лепшым посудам прызнаны той, які пакрыты тэфлонам. У нас жа ён пакуль што рэдкасць. У алюмініевым посудзе не рэкамендавана гатаваць дзецям і дыетычныя стравы. І ні ў якім разе нельга карыстацца эмаліраваным посудам, калі на ім ёсць пашкоджанні эмалі. Пад эмаллю знаходзяцца таксічныя металы, якія пры награванні актыўна акісляюцца і могуць пераходзіць у ежу. З металічнага посуду гігіенічным патрабаванням адпавядаюць нержавеючая сталь, хроманікелевыя сплавы і медны посуд.

Што датычыцца пластмасавых талерак, шклянак, то ні ў якім разе не трэба туды наліваць гарачае. Пры ўздзеянні высокай тэмпературы і пры доўгім выкарыстанні такая пластмаса пачынае выдзяляць таксічныя рэчывы, што асабліва шкодна для дзяцей.




ЦІ ЁСЦЬ «ПАЛІТАДДЗЕЛЫ» Ў ВОЙСКАХ НАТО!

●

ЯКІ ПОСУД КАРЫСНЕЙ ДЛЯ ЗДАРОЎЯ!

ТЭЛЕФАНУЙЦЕ У «ПЫТАЛЬНІК» ПА НАСТУПНЫХ НУМАРАХ: 32-60-13, 32-44-02, 32-44-03.

ТЭМПЕРАТУРА ДОМА

# Псеўда-«Гарбачоф»

**У камерцыйных магазінах у шырокім асартыменце з'явілася гарэлка «Гарбачоф». Чыя гэта прадукцыя?**

**А. ГРЭКАЎ.**

**г. Слонім.**

Гарэлка «Гарбачоф» перакачавала ў нашы «комісы» з Берліна, дзе яе вытворчасць вядзе фірма «Гарбачоф ГмбХ». Дарэчы, заснавана гэта кампанія была ў Пецярбургу генераламі царскай арміі А. Гарбачовым яшчэ ў 1880 годзе. Праз сорак гадоў фірма пераехала ў Берлін. Зараз яна поўнасцю належыць фірме «Зонлейн» з Вісбадэна, якая ўваходзіць у канцэрн «Этке».

Выкарыстоўваючы вядомае ў савецкія часы імя, гарэлка «Гарбачоф» падаецца на Захадзе як афіцыяльная марка на тэрыторыі былога Саюза, і тым самым уводзяцца ў зман многія спажыўцы. Менавіта гэты факт спрые павелічэнню яе збыту. Так, пачынаючы з 1985 года, доля гэтай гарэлкі сярод іншых марак на рынку ФРГ павялічылася з 13,2 да 21,9 працэнта. Зараз яна ўваходзіць у пяцёрку самых распаўсюджаных у Германіі, і яе штогадовы збыт перавышае 2 млн. бутэлек. За час, які мінуў з 1985 года, яна стала сур'ёзным канкурэнтам «Маскоўскай», удзельная вага якой складала 20—25 працэнтаў на нямецкім рынку.

У большасці выпадкаў гарэлка «Гарбачоф» — адна з псеўдарускіх вытворчасці Германіі, як і «Пушкін», «Папоф», «Эрыстоф». Да таго ж, па якасці яна ўступае нашым гарэлкам, якія выпрацоўваюцца сапраўды па айчынных рэцэптах. Таму пытанне афіцыяльнай закупкі гарэлкі «Гарбачоф» для нашага рынку ніколі не стаяла.

